Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

11 мая 2001 года

№ 19 (316)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс




**Навіны рэгіёна**

## Нацпарк спрабуюць ацаніць



МЯДЗЕЛ. Тыдзень таму ўпершыню на мясцовым вузле паштовай сувязи правялі спецгашэнне «Першага дня». Нагодай стаў выпуск камплекту, прысвечанага Нацпарку «Нарачанскі».

За адмысловы канверт і адбітак штэмпелю плаціць трэба было нямнога, а вось кошт маркі, прысвечанай Нацпарку, уражвае — 1000 рублёў.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Перакуліўся бензавоз

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду каля трох гадзін ночы на вуліцы Прафсаюзнай, што ў «шостым» мікраёне, перакуліўся бензавоз.

У цыстэрнах знаходзілася 38 тон бензіну АІ-92. Разлілася 5—7 тон бензіну на плошчы каля 50 м². Тры пажарныя аўтацыстэрны залілі месца ўцечкі пенай. Бензін адпампавалі бензавозам, які належыць вайсковай часці.

Начальнік маладзечанскай дзяржаўтаінспекцыі Уладзімір Балкоўскі сказаў, што машына перакулілася з-за няўважлівасці вадзіцеля.

Аварыю ліквідавалі ў 8-26. Да 15 гадзін быў перакрыты ўчастак трасы Маладзечна-Мінск. А жыхары «шостага» мікраёна ўвесь час гадалі, адкуль моцна пахне бензінам.

Юрый КАРПІЦКІ.

## Астравец–Гудагай на ровары

АСТРАВЕЦ. ДРБУ-159 вядзе работы на веласіпеднай дарозе Астравец–Гудагай. За два апошнія месяцы асвоена амаль 30 мільёнаў рублёў.

Калі з боку заказчыка УП "Гроднааўтадар" не будзе затрымак з фінансаваннем, дарожнікі плануюць здаць у эксплуатацыю дарогу ўлетку. Складанасці мусяць узнікнуць пры пакрыцці яе асфальтам. Яго давядзецца класці практычна ўручную, бо тэхніка, якая ёсць у арганізацыі, прызначаная для больш шырокіх дарог.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

## Рыцары збіраюцца ў Мядзел

МЯДЗЕЛ. У бліжэйшы час у райцэнтры збіраюцца правесці першы нацыянальны рыцарскі турнір «Меч Гедыміна».

Месца пад яго выбрана гістарычнае: паўвостраў, дзе ў XV–XVIII стагоддзях існаваў замак. Цяпер, праўда, ад яго нічога не засталося.

У праграме турніру спаборніцтвы рыцараў у некалькіх намінацыях (у залежнасці ад таго, якую эпоху прадстаўляюць), турнірныя гульні, спаборніцтвы стралкоў з лука і іншае.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Выстаўка беларускай прэсы

МІНСК. З 2 па 5 мая ў Палацы мастацтваў прайшла пятая выстаўка "Прэса ў Беларусі-2001". Удзел бралі дзяржаўныя выданні.

Сёлета павялічылася колькасць прадстаўнікоў раённых газет (у мінулы раз можна было пабачыць толькі нешматлікія спецыялізаваныя стэнды рэгіянальнага друку), тэлеграфных агенцтваў. З недзяржаўных выданняў толькі тры газеты вырашылі ўзяць удзел. Маладзечанскае аддзяленне "Белсаюздруку" традыцыйна прадаставіла ўвазе мінчанаў і гасцей сталіцы мясцовыя выданні. Такім чынам, трапіла на выстаўку і "Рэгіянальная газета".

Мікалай ХАДАСЕВІЧ.

**Надвор'е на выхадныя**

Субота, 12 мая

Мінск
4 – 5°С (уначы)
9 – 11°С (удзень)



Вільня
4°С (уначы)
14°С (удзень)



Нядзеля, 13 мая

Мінск
2 – 5°С (уначы)
8 – 14°С (удзень)



Вільня
3°С (уначы)
15°С (удзень)



# Доўг, які не вярнуць



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

На святкаванні Дня Перамогі 9 мая 2001 года ў гарадскім парку Вілейкі. Ветэраны слухаюць выступленне маладых самадзейных артыстаў з тэхнічнага вучылішча №48.

Усё менш ветэранаў збіраецца на свята Перамогі. Нават у вялікіх гарадах. А што ўжо казаць пра вёскі. Ёсць цэлыя сельсаветы, дзе не засталося ў жывых ніводнага. А доўг, які мы маем перад пакаленнем нашых бацькоў, дзядоў, для многіх і прадзедаў, застаецца не вернуты. Ды і не вярнуць яго ніколі. Настолькі невычарпальнае значэнне мае Перамога, здабытая ў маі 1945 года.

Для нас вайна пачалася не ў сорак першым. Тысячы юнакоў з-пад Валожына, Ашмянаў, Вілейкі, Кабыльніка ўступілі ў бой з фашыстам ў верасні 1939 года. Пасля – або немецкі ці савецкі палон, або змаганне ў Еўропе, на поўдні Афрыкі, або, калі пашчасціць, вяртанне ў родную Беларусь і, ужо пасля чэрвеня 41-га, партызанка.

Вілейскі парк – традыцыйнае месца сустрэчы ветэранаў. Упершыню яны прыйшлі сюды 9 мая 1945 года, калі такім паважным іменем іх тады яшчэ ніхто не называў – былі маладымі. Жыццё няўмольнае. Узрост бярэ сваё. Але пакуль яны з намі, давайце сплачваць ім доўг, хай сабе яго ніколі нам і не вярнуць.

АляксандрМАНЦЭВІЧ.

**Экспрэс-апытанне смаргонцаў**

## Як вы збіраецеся правесці лета?



**Алеся Шаўрук, галоўны дзяржаўны інспектар працы:**

— Хутчэй за ўсё, куплю пуцёўку і паеду на адпачынак. Лета на тое і існуе, каб мы маглі пабачыць мора, пагрэцца на сонейку і, урэшце, проста адпачыць ад паўсядзённай мітусні.



**Алена Міхалевіч, настаўніца рэлігіязнаўства ў Солах.**

— Напачатку лета буду працаваць з групай дзяцей на Нёмане. А пасля – адпачынак з сябрамі.



**Алена Ганчарова, бухгалтар бюро падарожжаў і экскурсій:**

— Спецыфіка месца работы дае багата варыянтаў для адпачынку. Прапановаў столькі, што выбірай, куды душа пажадае. Цяпер выбіраю месца адпачынку і займаюся.



**Іван Кушлевіч, прадпрымальнік:**

— Буду працаваць на рынку. Пра адпачынак – дзе і як – пакуль не думаў.



**Соф'я Ціценка, інспектар пашпартна-візавай службы:**

— На адпачынак разлічваць не даводзіцца, бо шмат спраў на рабоце. Акрамя яе, буду з сям'ёй працаваць на дачным участку.

Фотаапытанне падрыхтаваў Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

■ НАШЫ ГРОШЫ

## Пад каўпаком

**Хутка год, як у краіне дзейнічае Закон аб мерах па прадухіленні легалізацыі даходаў, атрыманых незаконным шляхам. Згодна з асноўнымі артыкуламі закона, да такіх даходаў адносяцца грошы і маёмасць, атрыманыя ў выніку парушэння заканадаўства.**

Легалізацыя даходаў – наданне правамернага выгляду ўладанню або карыстанню маёмасцю шляхам яго ўтойвання.

Да фінансавых аперацый па легалізацыі незаконных даходаў адносяцца банкаўскія аперацыі (уклады, купля-продаж іншаземнай валюты і каштоўных папер, набыццё чэкаў, міжнародныя пераводы), атрыманне выйгрышаў, паштовыя пераводы, страхавыя ўзносы і ўзносы ў статутныя фонды. Для фізічных асоб асабліваму кантролю падлягаюць аперацыі, калі іх сума роўная ці перавышае 2000 мінімальных заработных плат (цяпер гэта 11400000 руб. або 8320 долараў). Прычым кантралююцца таксама аперацыі, калі на працягу аднаго месяца сума якіх роўная ці перавышае ўказаную мяжу і факты ўказваюць на сувязь паміж гэтымі фінансавымі аперацыямі.

Да кантралюючых органаў адносяцца Камітэт дзяржкантролю, мытны камітэт, падатковыя інспекцыі і банкі. Таму можна адназначна сцвярджаць, што ўсе нашыя маёмасныя аперацыі знаходзяцца пад пільным кантролем, а мы ўсе – быццам пад каўпаком.

Барацьба супраць легалізацыі незаконных даходаў праводзіцца ва ўсім свеце – па ацэнках, штогод у свеце адмываецца да 1 мільярда долараў брудных грошай. Прычым палова гэтых грошай праходзіць праз амерыканскія банкі. Падключыўся і ўрад суседняй Расіі, але ўжо спазніўся: усё практычна і так у руках алігархаў.

Краін, што не перашкаджаюць легалізацыі незаконных даходаў, засталося 8, і да іх сусветная супольнасць хоча прымяняць санкцыі. Аднак вядома, што перамагчы ценявы капітал цалкам нельга: вельмі вялікія яго магчымасці. Патрэбныя эканамічныя прадпасылкі для яго выхаду з ценю, паступовае набліжэнне да цывілізаваных нормаў.

Праваахоўчыя органы зыходзяць з таго, што любы даход, паходжанне якога нельга патлумачыць, – злачынны. Прэзумпцыі невінаватасці няма і ў паміне. Згодна са Страсбургскай канвенцыяй аб супрацьдзеянні легалізацыі брудных грошай 1990 года, крымінальнай прызнаная любая выгада, атрыманая ў выніку здзяйснення злачынства. Значыць, павінна быць даказана, што даход атрыманы злачынным шляхам. Знайшлі ў сейфе 200 долараў і што? Сам грамадзянін павінен даказваць, што ён не вярблюд.

Краіне, якая мае патрэбу ў інвестыцыях, патрэбная, хутчэй, лібералізацыя крыніц іх прыцягнення. Калі чалавек на працягу года трымае пэўную суму валюты на ўкладзе, то яго грошы, заробленыя хоць на чаўночным гандлі, прыватным возніцтве або рэпетытарствам аўтаматычна легалізоўваліся б.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

Да свята Перамогі Маладзечна даводзіла да ладу Цэнтральную плошчу.

## Прэм'ер-міністр і сяло

**СМАРГОНЬ. Прэм'ер-міністр краіны Уладзімір Ярмошын падчас візіту напярэдадні майскіх святаў на Смаргоншчыну паабяцаў старшыні райвыканкома Мікалаю Кавалёву перанесці фінансаванне новабудоўлі – школы-садка, што на вуліцы Маладзёжнай, з чацвертага квартала на другі. Мяркуецца дадаткова выдзеліць 100 мільёнаў рублёў, каб завяршыць будоўлю, як планавалася, – да 1 верасня.**

Асаблівую ўвагу госці (разам з прэм'ер-міністрам у паездцы быў старшыня Гродзенскага аблвыканкома **Уладзімір Саўчанка**) надалі аграпрамысловаму комплексу. На ААТ "Смаргонскі камбікормавы завод" пацікавіліся прадукцыяй. У крупацэху пазнаёміліся з вытворчасцю аўсяных круп (завод у месяц выпускае да 500 тон аўсянкі).

АСТРАВЕЦ. Далей шлях прэм'ер-міністра і старшыні аблвыканома ляжаў у гаспадаркі Астравеччыны, якая адставала па тэмпах сяўбы ў вобласці. Праўда, на нарадзе ў райвыканкоме У. Саўчанка патлумачыў гэта кліматычнымі ўмовамі.

Уладзімір Ярмошын прасіў не разглядаць ягоную паездку як інспектарскую: па словах прэм'ер-міністра, яго хвалюе жыццядзейнасць сельскай гаспадаркі ўвогуле. Знаёмства з трыма калгасамі пераканала яго, што эканамічна моцныя гаспадаркі мусяць пераходзіць на самафінансаванне.

**Галіна ПАДМОСТКА.**

## Аб'ёмы вытворчасці зніжаюцца

**МАЛАДЗЕЧНА. Тэмпы росту аб'ёмаў прамысловай вытворчасці за першы квартал у горадзе склалі 96,6% (па плане – 106,0%).**

У сакавіку яны яшчэ больш знізіліся: за 2 першыя месяцы лічба росту аб'ёмаў была 98,9%.

Начальнік упраўлення па эканоміцы, прыватызацыі, рыначных адносінах і кіраванні дзяржмаёмасцю гарвыканкома **Святлана Галубовіч** адзначае, што не забяспечылі выхад на прагназуемыя паказчыкі 15 з 33 прамысловых прадпрыемстваў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ МЕРКАВАННЕ

## Дапаможам сельскай гаспадарцы?

**ВІЛЕЙКА. На прахадной завода "Зеніт" вісіць заклік: "Дапаможам сельскай гаспадарцы!".**

Тыя, хто гэта складаў, напэўна, маюць такую магчымасць. Не будзем ім перашкаджаць. А хто думае інакш, задумайцеся, чаму з намі так паступаюць?

У краіне ідзе "добраахвотнае" ачышчэнне кішэняў людзей, зарплаты якіх ледзь хапае на харчаванне. Адным са сродкаў вымання грошай з'яўляюцца суботнікі. Чыноўнікі гавораць: гэта неабходна для патрэб сельскай гаспадаркі.

Не веру! Гэта патрабуецца для прыкрыцця бяздарнай эканамічнай палітыкі. Кіраўнікі намагаюцца ўздзейнічаць на свядомасць: "Пралетарыят заўсёды дапамагаў сялянству, дапамагае і цяпер". Так, мы дапамагалі летась, нас прымушаюць гэта рабіць сёння, а што заўтра? Замест таго, каб цалкам змяніць палітыку, правесці рэформы, жадаюць за кошт народу падоўжыць агонію эканомікі.

Многія жыхары Вілейкі абураныя гэтымі пабoрамі. Але грошы, невядома на што, аддаюць – страх паралізуе іх волю і розум.

Так і жывем: прамысловасць на ўздыме, сельская гаспадарка нарошчвае тэмпы (але невядома чаго). Калі гэта так, то навошта лезці да нас у кішэню? Развал у краіне – гэта ж не наша віна, а вынік работы ўладных структур. І гэта яны павінны адказваць за ўсё, што адбываецца ў краіне.

**Уладзімір МАЛЯРЧУК, Вілейка.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Прычыны гібелі людзей

**СМАРГОНЬ. На трэцім месцы прычын гібелі людзей знаходзяцца няшчасныя выпадкі. Летась на Смаргоншчыне загінула 100 чалавек. У выніку злачынстваў загінула 12 чалавек, па іншых прычынах – 88.**

У дарожна-транспартных здарэннях атрымалі смяротныя траўмы 11 чалавек. Сярод тых, хто загінуў, і вадзіцелі, і пешаходы, і пасажыры, і веласіпедысты. Асноўныя парушальнікі правілаў дарожнага руху – вадзіцелі асабістых аўтамабіляў.

На вытворчасці ў выніку парушэнняў правілаў тэхнікі бяспекі загінула 4 чалавекі. Вінаватымі, часцей за ўсё, з'яўляюцца самі ахвяры, якія не захоўвалі правілы аховы працы. Аднак службовыя асобы не заўсёды ствараюць бяспечныя ўмовы працы і кантралююць захаванне правілаў тэхнікі бяспекі работнікамі.

У выніку пажараў загінула 8 чалавек, з іх 7 сельскіх жыхароў. Тут прычына гібелі – неасцярожнае абыходжанне з агнём, курэнне ў пасцелі ў стане алкагольнага ап'янення.

Адна з асноўных прычын гібелі людзей – п'янства. З-за атручвання алкаголем загінула 27 чалавек. "Выпіў меней, чым хацеў, але болей, чым змог", – такі сумны жарт суправаджае факты смерці ад перадазіроўкі спіртных напіткаў.

23 чалавекі скончылі жыццё самагубствам. Асноўная прычына – жыццёвыя праблемы, часцей за ўсё, у сям'і. Калі чалавек не змог знайсці выйсце са складанай сітуацыі, а побач не знайшлося таго, хто змог бы дапамагчы і стрымаць ад паспешлівага апошняга кроку.

90% тых, хто загінуў, у момант смерці знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення. П'янства – і прычына, і пабуджальны матыў, і абставіны гібелі ў выніку няшчасных выпадкаў.

Сярод загінуўшых 4 дзіцяці, 15 жанчын і 81 мужчына. Гінуць, у асноўным, мужчыны ў росквіце гадоў, у працаздольным узросце. Гэта адна з прычын, што сярэдняя працягласць жыцця ў жанчын вышэйшая, чым у мужчын. Чым большы ўзрост, тым больш жанчын, чым мужчын-равеснікаў.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 3 мая | 10 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1334,00 руб. | 1341,00 руб. |
| Нямецкая марка | 607,28 руб. | 608,37 руб. |
| Літ | 333,58 руб. | 335,32 руб. |
| Расійскі рубель | 46,27 руб. | 46,30 руб. |
| Злоты | 337,89 руб. | 339,71 руб. |
| ЕЎРА | 1187,73 руб. | 1189,87 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1360 – 1380 руб. | 1370 – 1380 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 2.05 | 8.05 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2180 | 2180 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6169 | 7760 |
| Сасіскі, 1 кг | 1750 | 2450 |
| Селядзец, 1 кг | 1550 | 1550 |
| Рыс, 1 кг | 500 | 500 |
| Грэчка, 1 кг | 480 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 565 | 565 |
| Алей, 1 л | 720 | 730 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 750 | 720 |
| Маянэз, 200 г | 250 | 250 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | 450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | 370 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 240 | 320 |
| Капуста, 1 кг | 360 | 350 |
| Лімоны, 1 кг | 1400 | 1350 |
| Апельсіны, 1 кг | 1100 | 1100 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1200 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Тварог, 1 кг | 950 | 1000 |
| Малако, 1,5 л | 450 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 850 | 1000 |
| Бульба, вялікае вядро | 800 | 600 |
| Морква, 1 кг | 300 | 450 |
| Яблыкі, 1 кг | 430 | 580 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 200 | 200 |
| Радыс, 1 пучок | 500 | 250 |
| Кроп, 1 пучок | 200 | 200 |

«РГ»-СТАТЫСТЫКА

## Беспрацоўных дадалося толькі ў Мядзеле

| | Колькасць беспрацоўных на 1 мая | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1502 (-30) чал. | 2,54% |
| Маладзечанскі раён | 256 (-3) чал. | 1,02% |
| Астравецкі раён | 354 (-11) чал. | 2,42% |
| Ашмянскі раён | 140 (-32) чал. | 0,80% |
| Валожынскі раён | 162 (-8) чал. | 0,84% |
| Вілейскі раён | 434 (-40) чал. | 1,38% |
| Мядзельскі раён | 244 (+5) чал. | 1,30% |
| Смаргонскі раён | 1087 (-8) чал. | 3,24% |
| **Усяго па рэгіёне** | 4179 (-127) чал. | |

У дужках паказанае змяненне ў колькасці беспрацоўных за мінулы месяц.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Пастухі жадаюць працаваць за 100 тысяч рублёў

**АСТРАВЕЦ. У тупіковай сітуацыі апынулася кіраўніцтва калгаса імя Мічурына. Час выганяць кароў у поле, а ніводны з калгаснікаў не пагаджаецца пасвіць кароў за 30–40 тысяч у месяц.**

Праўленне калгаса паабяцала заплаціць за месяц кожнаму пастуху 100 тысяч рублёў і 300 кілаграмаў збожжа ў канцы года. Тады знайшліся і ахвочыя. Глядзіш, у калгасах такім чынам дасягнуць заработкаў да 100 долараў, абяцаных кіраўніцтвам краіны.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Даўгабуд – яшчэ адна брыгада

**МАЛАДЗЕЧНА. На будоўлі Дома культуры па стане на ўчарашні дзень занята 49 чалавек. Месяц таму было на 16 менш.**

Майстар **Аляксандр Гаўрычаў** тлумачыць, што на перакрыцці даху дадалі брыгаду муляраў.

За красавік нанова паклалі 10% "клубнай" часткі (на вышыні трэцяга паверха). За май разбяруць клубную і будуць працаваць над "відовішчнай" часткай (над глядзельнай залай). Акрамя гэтага, умацоўвалі сцены, зрабілі падлогу ў падвале, прыбіралі смецце.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

